

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны

№ 3 (сакавік), 2013

# Мяжа

## 25 сакавіка - Дзень Волі

**Традыцыйны марафонскі забег у Берасці**

(старонка 6)

# ЗЬМЕСТ

## Брэсцкія праваабаронцы лічаць справу Віталя Каўша сфальсіфікаванай

Яны будуць дабівацца крымінальнай справы па факту фальсіфікацыі доказаў віны.

Юрыст-міжнароднік Раман Кісляк патлумачыў:

Кісляк: "Нашым першым крокам будзе зварот у Генеральную пракуратуру. Трэба разбірацца. Калі такая фальсіфікацыя ёсць, то, адпаведна, павінна быць і крымінальная справа. Сітуацыя ў судах з працэдурнымі парушэннямі катастрафічная. У справе Каўша яны выразна бачныя. Ёсць парушэнні працэдуры, недахопы — суд паслухае, і ўсё. “Мы ацэнім”. Вось і ацанілі. Няхай шукаюць іншыя доказы, няхай шукаюць рэальных віноўнікаў".

Праваабаронца Уладзімір Вялічкін лічыць, што ў справе ёсць падлог дакументаў: пры капіяванні пашпартоў індусаў-нелегалаў з нейкай мэтай закрылі іх подпісы. Таксама ён кажа пра масавае капіяванне тэкстаў пратаколаў, так што супадалі нават памылкі і асаблівасці друку. 8 індусаў былі запісаныя ў пратаколах як 60 з-за розніцы ў арфаграфіі, датах нараджэння і інш.

Нагадаем, на аснове гэтай супярэчлівай, на думку праваабаронцаў, базы абвінавачання грамадскі актывіст Віталь Коўш атрымаў 4 гады турмы з канфіскацыяй маёмасці за арганізацыю нелегальнай міграцыі. Нібыта ён у траўні 2012 года дапамагаў мігрантам па канаце прайсці над беларуска-польскай мяжой.

Дарэчы, на прэс-канферэнцыі прысутнічала жонка асуджанага Жанна Коўш. Камітэт па правах чалавека ААН прыняў да разгляду справу “Жанна Коўш супраць Рэспублікі Беларусь”. Яна тычыцца пераследу жанчыны некалькі гадоў таму. Не выключана, што арышт і асуджэнне Віталя Каўша звязаныя з непрыемным для беларускіх уладаў разглядам, мяркуе Раман Кісляк.

*euroradio.fm/report/bresckiya-pravaabaroncy-lichac-spravu-vitalya-kausha-sfalsifikavanay*

## Берасьце: затрыманьні на «Хвалі салідарнасьці»

Берасьцейскія актывісты стваранай партыі БХД Улад Бароўскі, Яўген Хазіаметаў і Андрэй Шарэнда былі затрыманыя падчас

спробы вывесіць сьцягі ў гонар палітвязьняў.

Акцыя адбывалася ў межах акцыі «Хваля салідарнасьці», якая праходзіць у розных гарадах краіны. Маладзёны плянавалі вывесіць бел-чырвона-белыя сьцягі каля парку Воінаў-інтэрнацыяналістаў у Берасьці. Іх затрымалі супрацоўнікі ў цывільным.

Як апавёў каардынатар БХД па Берасьцейшчыне Зьміцер Шурхай, хлопцаў пратрымалі ў пастарунку больш за тры гадзіны, пасьля чаго адпусьцілі, не складаючы пратаколаў:

«Іх затрымалі апоўдні людзі ў цывільным, якія, хутчэй за ўсё, сачылі за імі. Хлопцаў завезьлі ў Маскоўскі РАУС Берасьця, дзе іх пратрымалі больш за тры гадзіны, што парушае іхнія правы. Праз чатыры гадзіны без складаньня пратаколу іх адпусьцілі. На гэты раз міліцыянты абмежаваліся гутаркай».

Зьміцер Шурхай ня лічыць затрыманьне выпадковым:

«У нас ёсьць інфармацыя, што акцыю ў Берасьці чакалі. „Хваля салідарнасьці“ была анансаваная ў інтэрнэце, у СМІ, сёньняшні дзень прыпадаў на Берасьце, таму ў горадзе былі разьмеркаваныя міліцыянты ў цывільным, у цывільных машынах, якія займаліся прадухіленьнем акцыі».

Акцыя «Хваля салідарнасьці» адбываецца з ініцыятывы БХД. На Берасьцейшчыне затрыманьні ў часе яе былі толькі ў Баранавічах, калі міліцыянты зблыталі з актывістамі звычайных мінакоў. Баранавіцкія актывісты таксама казалі, што на момант правядзеньня акцыі міліцыянты ўжо былі на месцы.

*www.svaboda.org/content/article/24932032.html*

## Затрыманых у Берасці актывістаў БХД адпусцілі без складання пратаколаў

Затрыманых у Берасці сябраў Аргкамітэта па стварэнні Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі Улада Бароўскага, Яўгена Хазіахметава і Андрэя Шарэнду вызвалілі. Яны былі затрыманыя пры вывешванні нацыянальных бел-чырвона-белых сцягоў у час марафона “Хваля салідарнасці”, які сёння праходзіць у Берасці. Іх больш за чатыры гадзіны пратрымалі ў Маскоўскім РАУСе,

паведаміў абласны каардынатар БХД Зміцер Шурхай.

- *Хлопцаў вызвалілі і адпусцілі без складання пратаколаў. Парушылі іх правы, бо пратрымалі больш за тры гадзіны, чатыры гадзіны былі яны ў РАУСе, але выпусцілі без складання пратаколаў.*

Як адзначыў Зміцер Шурхай, нягледзячы на затрыманне, акцыя салідарнасці з палітычнымі вязнямі ў Берасці адбылася. Жыхарам горада над Бугам раздавалі інфармацыйныя ўлёткі пра беларускіх палітычных зняволеных. Марафон "Хваля салідарнасці» - кампанія па падтрымцы палітычных вязняў, якая праходзіць у звыш трыццаці гарадах Беларусі.

*racyja.eu/index.php?id=104&zoom=11860#.UUd0uyW0uCx*

## Марафон "За свабоду Бяляцкаму!" працягваецца

16 сакавіка ў Гродна адбылісяі ІІ-ія лёгкаатлетычныя абласныя спаборніцтвы па бегу на гадзіну часу. У спаборніцтвах акрамя прадстаўнікоў розных раёнаў Гарадзеншчыны бралі ўдзел бегуны з



гарадоў іншых рэгіёнаў Беларусі.

Вядомы грамадскі праваабаронца з Берасцейшчыны Уладзімір Малей прысвяціў сваю прабежку палітзняволенаму Алесю Бяляцкаму. У кашулі з выявай Бяляцкага Уладзімір прабег больш дванаццаці кіламетраў і фінішаваў са сцягам незалежнага прафсаюза РЭП.

"Марафон "За свабоду Бяляцкаму!" працягваецца", - сказаў, пасьля гадзіннай прабежкі, Удадзімір Малей: "Гэтай вясной я распачаў чарговы сезон барацьбы за вызваленьне праваабаронцы Алеся Бяляцкага, які пакутуе ў засьценках рэжыму за ўсіх нас. Я планую прымаць удзел ва ўсіх рэспубліканскіх марафонах пад лёзунгам "**Свабоду палітзняволеным!**"

## Традыцыйны марафонскі забег у Берасці

У Берасці адбыўся традыцыйны марафонскі забег, прысвечаны памяці загінулых воінаў-інтэрнацыяналістаў. Перад пачаткам забегу да помніка воінам-інтэрнацыяналістам былі ўскладзены



кветкі.

У забегу прымалі ўдзел вучні, вайскоўцы і праваабаронцы з розных гарадоў рэспублікі, кажа праваабаронца Уладзімір Вялічкін:

- *Што тычыцца Малея, то ён прабег у кашульцы з выявай Бяляцкага свае 12 км, несучы бел-чырвона-белы сцяг. Ён і яшчэ некалькі чалавек, якія беглі ў кашульках з выявай Пагоні і бел-чырвона-белага сцяга, прысвяцілі гэты прабег 95-м угодкам Беларускай Народнай Рэспублікі.*

Па словах Вялічкіна, марафонскі забег напярэдадні свята Незалежнасці і ўдзел у ім праваабаронцаў сімвалізуе тое, што ў незалежнай Беларусі не можа быць ахвяр, у тым ліку і палітвязняў.

*racyja.eu/index.php?id=105&zoom=12156#.UU9XayW0uCx*

## На прабегу ў Брэсце быў бел-чырвона-белага сцяг і "Пагоня"

Апроч таго, адзін з удзельнікаў кросу 12 кіламетраў пранёс выяву Алеся Бяляцкага і заклік вызваліць яго.



XXY-ы прабег “Памяць”, прысвечаны брэстаўчанам, загінулым у Афганістане, прайшоў ля Вяслярнага канала ў Брэсце. Марафонец Уладзімір Малей, які бег у футболцы з выявай Алеся Бяляцкага, на фінішы разгарнуў вялікі бел-чырвона-белы сцяг. Спадар Малей распавёў:

*“Цудоўны дзень сёння супаў са святкаваннем 95-х угодкаў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Арганізатары прысвяцілі прабег загінулым у Афганістане беларусам. Выявай Алеся Бяляцкага я нагадаў пра палітзняволеных, пра неабходнасць салідарнасці з тымі, хто знаходзіцца ў турмах Рэспублікі Беларусь з палітычных прычынаў, патрабаваў іх неадкладнага вызвалення”*.

На прабегу былі ўдзельнікі з іншых гарадоў. Зміцер і Андрусь з Салігорска беглі ў цішотках з “Пагоней”.

*euroradio.fm/report/na-prabegu-u-bresce-byu-bel-chyrvona-belaga-scyag-i-pagonya*

## У Берасці гаварылі пра парушэнні правоў жанчын

Праблемы з працаўладкаваннем на годную працу, немагчымасць заняцця высокіх пасадаў на прадпрыемствах і ва ўстановах, удзелу ў палітычным жыцці краіны ды іншае. Такія асноўныя парушэнні правоў жанчынаў былі разгледжаныя ў час круглага стала ў горадзе над Бугам. Мерапрыемства адбылося на офісе Прафсаюзаў



Радыёэлектроннай прамысловасці. Удзел у ім прынялі прадстаўнікі грамадскіх і палітычных структур. Дыскусія была прысвечана Міжнароднаму жаночаму дню.

Старшыня арганізацыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) Маскоўскага раёну горада Берасця Святлана Алесюк адзначыла, што даволі мала жанчын знаходзіцца на кіруючых пасадах:

- Адбыўся круглы стол, на якім мы разгледзелі праблемы, якія хвалююць жанчын. Я палічыла патрэбным пагаварыць пра праблему жаночага палітычнага лідарства. Таксама апошнім часам колькасць жанчын, якія знаходзяцца на кіруючых пасадах, скарацілася ў пяць з лішнім разоў.

У вырашэнні сітуацыі з парушэннем большасці пералічаных правоў, на думку ўдзельнікаў мерапрыемства, павінна прымаць удзел як дзяржава, так і самое грамадства.

*racyja.eu/index.php?id=105&zoom=11419#.UT4nWSW0uCx*

## "Хваля Салідарнасці" прайшла ў Пінску

Марафон Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі "Хваля Салідарнасці" прайшоў у Пінску. Тут мясцовыя актывісты БХД каля Палескага дзяржаўнага ўніверсітэта вывесілі расцяжку "Свабода палітвязням". Пра гэта паведаміў адказны сакратар БХД Дзяніс Садоўскі.

– Акцыя пераваліла за палову. Можна адзначыць, што тыя мэты, якія мы ставілі, паступова рэалізуюцца. То бок падняць, абвастрыць сітуацыю з палітвязнямі, як унутры краіна, так і па-за яе межамі, падняць хвалю салідарнасці, каб людзі, якія не ведалі пра палітвязняў, даведаліся і выказалі сваю падтрымку. Спадзяемся, што гэта будзе яшчэ адным крокам да хуткага вызвалення палітвязняў.

Апроч таго, улёткі з інфармацыяй пра палітзняволеных былі раскіданыя па паштовых скрынях пінчукоў. Марафон "Хваля Салідарнасці" пройдзе па 37 гарадах Беларусі і скончыцца акцыяй у Дзень Волі ў Менску.

*racyja.eu/index.php?id=104&zoom=11474#.UT4pcSW0uCx*

# На «Граніце» шкодныя ўмовы працы зменшыліся толькі на паперы

Пасля скарачэння льгот рабочыя «Граніту» вяртаюцца ў незалежны прафсаюз.

Пра гэта «Белсату» распавёў адзін з лідэраў незалежнага прафсаюзу на прадпрыемстве Анатоль Ліцвінко:

*«Пасля праведзенай у мінулым годзе атэстацыі штучна паменшылі льготы за шкодныя ўмовы працы. Раней у нас быў каэфіцыент шкоднасці 3,3, а цяпер быццам бы запыленасць знізілася, і каэфіцыент стаў 2,2. Цяпер у нас адпачынак за шкоднасць скароціцца з 14 да 7 дзён. Даплата за кожную гадзіну працы скароціцца з 0,2% да 0,14%».*

Ліцвінко кажа, што працаўнікоў прымушаюць згаджацца з новымі ўмовамі, запалохваючы непадаўжэннем кантракта. Ён кажа, што не ведае ні пра якія меры, у выніку якіх паменшылася шкоднасць працы на «Граніце»:

*«Ды ў нас бывае за 5 метраў не відаць работніка ў цэху з-за пылу! А тут дэкларуюць, што ў нас, аказваецца, запыленасць знізілася... 30 гадоў завод гэты стаіць, і ніякіх мер для паляпшэння гэтага не прымалася...»*

Прафсаюзны актывіст мяркуе, што адзіны спосаб абароны сваіх правоў - аб'яднанне рабочых у незалежны прафсаюз:

«Гэта ўсё абурыла работнікаў, і цяпер наспявае тое, што было падчас стварэння вочкі незалежнага прафсаюзу на «Граніце». Зараз да мяне падыходзілі 5 хлопцаў, якія просяць прыняць іх у незалежны прафсаюз. На гэтай хвалі, якую робіць сама адміністрацыя прадпрыемства, нашы шэрагі тут папоўняцца. Агульная бяда заўсёды дапамагае людзям аб'ядноўвацца. А альтэрнатывы незалежнаму прафсаюзу на «Граніце» няма».

Кіраўнік Беларускай канфэдэрацыі дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандр Ярашук адзначае, што падобная праблема існуе і на іншых прадпрыемствах са шкоднай вытворчасцю:

«Пытанне пра гэта мы ставім вельмі востра перад урадам, Міністэрствам працы. Праблема шкоднасці на вытворчасці вырашаецца тым, што праводзіцца атэстацыя, падчас якой ўводзяцца новыя параметры, у адпаведнасці з якімі тое, што ўчора

было шкоднае, раптам перастае быць шкодным... І гэта рэальная праблема для рабочых. Гэта тычыцца не толькі «Граніту», але і ўсіх без выключэння прадпрыемстваў, дзе ёсць шкодныя ўмовы працы».

Ярашук распавёў, што ў некаторых выпадках рабочым атрымоўваецца адстаяць льготы за шкоднасць. Некалькі месяцаў таму, калі першы віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка наведваў ААТ «Гродна Азот», рабочыя выказалі яму свой пратэст у сувязі з гэтай праблемай. У выніку на прадпрыемстве льготы пакінулі ранейшымі.

*charter97.org/be/news/2013/3/7/66297/*

## Брэсцкі абласны суд пацвердзіў: назіральнік нецэнзурна лаяўся на выбарах

Тым самым ён пагадзіўся з заявай старшыні акруговай камісіі, дакументамі з баранавіцкай міліцыі і мясцовага суда.

Суддзя Брэсцкага абласнога суда Наталля Сурма пакінула ў сіле прысуд Баранавіцкага суда наконт праваабаронцы **Сяргея Гоўшы**. Яму прысудзілі паўтара мільёна рублёў штрафу за тое, што нібыта лаяўся ў акруговай камісіі падчас апошніх выбараў у Палату прадстаўнікоў.

Гоўша з прысудам не згодны:

**Сяргей Гоўша:** "*Гэта не суд! Сёння ў судзе наўпрост гэта ім сказаў. Суддзя, адхіліўшы ў бок сумленне, прыняла такое рашэнне. Я яго, канешне, буду абскарджваць. Але ў нас няма ні баранавіцкага незалежнага суда, ні абласных судоў, ні Вярхоўнага суда. Згодзен з былым сябрам Канстытуцыйнага суда*

*Міхаілам Пастуховым: нам трэба вяртацца да Канстытуцыі 1994 года. Усю сістэму трэба мяняць*".

Гоўша падаваў і міліцыянтам, і суду першай інстанцыі дыктафонны запіс размовы са старшынёй камісіі Латышавай, якая напісала заяву ў міліцыю. Ён прывёз з Мінска тры высновы экспертызы пра сапраўднасць запісу, на якім няма ніякай лаянкі.

Дарэчы, абласны суд спачатку адмовіўся разглядаць касацыю, але мусіў зрабіць гэта паводле рашэння Вярхоўнага суда. Адзінае, чаго пакуль што дабіўся баранавіцкі праваабаронца, гэта беларускамоўнага вядзення абодвух паседжанняў абласнога суда.

*http://euroradio.fm/report/brescki-ablasny-sud-pacverdziu-naziralnik-necenzurna-layausya-na-vybarah*

## У Берасці скардзяцца на працу гарадскіх уладаў

У Берасці скардзяцца на працу гарадскога Савета дэпутатаў і гарадскога выканаўчага камітэта ў вышэйшыя інстанцыі. Яны адмовіліся прадастаўляць копію рашэння пра зацверджанне бюджэту горада на 2013 год. Уладамі быў праігнараваны шэраг прапановаў грамадскіх дзеячаў, у тым ліку прапанова пра размяшчэнне дакумента з бюджэтам на сайце Берасцейскага гарадскога выканаўчага камітэта і ў СМІ.

Актывіст кампаніі “Гавары Праўду!” Ігар Маслоўскі адзначыў, што матывам да напісання скаргі стала парушэнне чыноўнікамі беларускага заканадаўства:

- *Мы лічым, што наш калектыўны зварот Берасцейскім гарадскім Саветам дэпутатаў і гарадскім выканаўчым камітэтам згодна з артыкулам 9 і 14 закона Рэспублікі Беларусь «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб» не разгледжаны па сутнасці. Не вырашаны ўсе выкладзеныя намі пытанні, няма ўважлівага стаўлення да заяўнікаў, да нас, да грамадзян.*

«Пры адказе дапушчаны фармалізм, не прыняты меры для поўнага, аб’ектыўнага, ўсебаковага разгляду нашага калектыўнага звароту, не прынята абгрунтаванае рашэнне,» - дадаў Ігар Маслоўскі.

*racyja.eu/index.php?id=105&zoom=11750#.UUN5oCW0uCx*

## Жыхару Брэста спатрэбілася 13 гадоў для перамогі над дзяржаўнай бюракратыяй

Жыхар Брэста Міхаіл Лукашэвіч 13 гадоў таму падаў дакументы на прыватызацыю дома і зямельнага ўчастка ва УП праектны інстытут “Брэстгіпразем”, заплаціўшы патрэбную суму для афармлення дакументаў.

Але патрэбныя дакументы так і не атрымаў. Спачатку супрацоўнікі “Брэстгіпразема” прасілі пачакаць да новых зменаў у заканадаўстве. Але змянілася заканадаўства і разам з тым аплата за дакументы. З Лукашэвіча сталі патрабаваць даплаты. Мужчына заўпарціўся і адмовіўся даплаціць грошы па прычыне таго, што здаў дакументы да зменаў і цалкам разлічыўся за паслугі.

За дапамогай Міхаіл Лукашэвіч звярнуўся да брэсцкіх праваабаронцаў.

Па словах праваабаронцы Уладзіміра Вялічкіна, пасля 13 гадоў змаганняў, гары спісаных папер, ужо нават калі знікла вера ў перамогу, перамога прыйшла. Спадар Лукашэвіч атрымаў адказ з упраўлення Дзяржаўнай камунальнай маёмасці РБ, што прадпрыемства “Брэстгіпразем” павінна за свой кошт зрабіць яму ўсе дакументы, паколькі свае абавязкі ў адносінах да “Брэстгіпразема” грамадзянін выканаў цалкам.

Праўда, Міхаіл Лукашэвіч канчаткова паверыць сваёй перамозе толькі тады, калі будзе трымаць дакументы на руках.

*spring96.org/be/news/61762*

## Беларусы ўсё часцей выступаюць за адмену смяротнага пакарання

Беларусы ўсё часцей выступаюць за адмену смяротнага пакарання ў краіне. З такой заявай выступіў праваабаронца Раман Кісляк. Па яго словах, усё больш грамадзянаў нашай краіны прыходзяць да разумення, што ва ўмовах перадузятасці і несправядлівасці судовай сістэмы смяротнае пакаранне недапушчальна.

Пры сённяшняй дыктатуры ў Беларусі людзі проста не маюць шансаў абараніць сябе, - падкрэсліў праваабаронца Раман Кісляк:

*- Апошнія сацыялагічныя даследванні паказваюць, што тых людзей, якія кажуць, што нельга ў Беларусі ўжываць смяротнае пакаранне, больш чым прыхільнікаў смяротнага пакарання. Яны бачаць гэтыя недахопы судовай сістэмы, гэтай несправядлівай судовай сістэмы, гэтыя парушэнні, якія кажуць, што нельга ў такіх умовах прысуджаць да смяротнага пакарання, бо выправіць такія памылкі будзе ўжо немагчыма.*

Год таму быў прыведзены ў выкананне смяротны прысуд у адносінах да Уладзіслава Кавалёва і Дзмітрыя Канавалава, якіх суд прызнаў вінаватымі ў арганізацыі і здзяйсненні выбуху ў менскім метро. Дагэтуль дакладна невядомая дата расстрэлу, а таксама месца пахавання маладзёнаў.

*racyja.eu/index.php?id=105&zoom=11670#.UUIlwCW0uCx*

## 95 гадоў БНР

25 сакавіка 1918 года была абвешчаная Беларуская Народная Рэспубліка.

У гэты дзень Рада Беларускай Народнай Рэспублікі прыняла ў Менску Трэцюю Устаўную грамату, у якой абвяшчалася поўная незалежнасць краіны. Упершыню ў гісторыі ў нашага народа з'явілася магчымасць стварыць уласную дзяржаву.

У вытокаў БНР стаялі маладыя беларусы - **Язэп Варонка, Кастусь Езавітаў, Іван Серада** - прадстаўнікі пакалення, выхаванага на ідэях нацыянальнага адраджэння, якое пачалося ў Беларусі ў першыя дзесяцігоддзі XX стагоддзя. Усе яны звязвалі надзею на здабыццё волі з Першай сусветнай вайной і Лютаўскай рэвалюцыяй у Расеі.

Магчымасць яе рэалізацыі з'явілася пасля зрыву перамоваў паміж бальшавікамі і Германіяй у Брэсце ў самым пачатку 1918 года.

Савецкія органы ўлады, якія ўсімі сіламі перашкаджалі дзейнасці беларускіх патрыётаў, былі вымушаныя пакінуць Менск і іншыя буйныя гарады краіны і бегчы ў Смаленск.

У гэтай сітуацыі 21 лютага выканаўчы камітэт Рады Усебеларускага з'езда абвясціў сябе часовай уладай на тэрыторыі краіны. У бліжэйшы час было вырашана склікаць устаноўчы сход, які павінен быў стаць першай спробай беларусаў на



Народны Сакратарыят Беларускай Народнай Рэспублікі.
Трэці злева - Язэп Захарка

дэмакратычнай аснове вырашыць свой далейшы лёс. Да гэтага функцыі новай улады былі перададзеныя часоваму ўраду - Народнаму сакратарыяту, кіраўніком якога стаў адзін з лідэраў Беларускай сацыялістычнай грамады Язэп Варонка.

Праз некалькі тыдняў Беларусь была аб'вешчаная народнай рэспублікай. Урад пераўтварылі ў Раду БНР, якую ўзначаліў прадстаўнік БСГ Іван Серада.

25 сакавіка Рада абвясціла поўную незалежнасць БНР.

Сімваламі новай дзяржавы сталі герб «Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг.

Урад БНР прыкладаў нямала намаганняў для арганізацыі нацыянальных інстытутаў. Была прынятая пастанова аб дзяржаўным статусе беларускай мовы, адкрываліся беларускія школы і гімназіі, культурна-асветніцкія таварыствы і тэатры, працавалі выдавецтвы, выходзілі беларускія газеты, вялася праца па адкрыцці ў Менску нацыянальнага ўніверсітэта.

Незалежнасць нашай краіны прызналі шэраг еўрапейскіх дзяржаў.

Рада БНР абапіралася на беларускія рады, якія працавалі ў

Магілёве, Гродне, Ваўкавыску, Слуцку і дзесятках іншых гарадоў. Яны адразу ж прыступілі да наладжвання работы органаў новай улады на месцах.

Германія і Савецкая Расея не прызналі БНР, як не прызнавалі і права на самавызначэнне іншых народаў, якія жылі на іх тэрыторыі. Тым не менш, бальшавікі лічылі яе спраўднай дзяржавай. У рашэнні свайго цэнтральнага камітэта яны пісалі, што «трэба дамагчыся, каб паўнамоцтвы ўрада БНР былі перададзеныя ўраду БССР».

У сілу складанага ваенна-палітычнага становішча Рада БНР не змагла рэалізаваць ідэю дзяржаўнага суверэнітэту краіны. За кароткі тэрмін не атрымалася паспець сфармаваць войска і супрацьпаставіць наступленню бальшавікоў з усходу і палякаў з захаду. Але савецкія ўлады бачылі, які папулярнасцю карысталася ідэя дзяржаўнасці ў беларусаў. Таму 1 студзеня 1919 года ў Смаленску была абвешчаная Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка Беларусь практычна ў тых жа межах, якія былі акрэсленыя ў статутных граматах БНР. Неўзабаве часткі Чырвонай Арміі занялі Менск і туды пераехаў урад савецкай Беларусі. Рада БНР была вымушана эміграваць.

Абвяшчэнне БНР мела і іншыя наступствы, акрамя вымушанага абвяшчэння бальшавікамі ССРБ. Мясцовыя беларускія ўлады паспелі стварыць структуры, якія на працягу дзесяцігоддзя вялі партызанскую барацьбу з камуністамі. Часта яна прымала пагрозлівыя для савецкіх уладаў формы - прыкладам гэтаму быў і «Слуцкі збройны чын» і шырокая падтрымка беларусамі паходу генерала Булак-Балаховіча на Палессі. І самае галоўнае, упершыню за дзясяткі гадоў яна стала прыкладам таго, што беларусы маглі дамагчыся пастаўленых мэтаў, бо яшчэ за год да падзеі 25 сакавіка 1918 года вельмі мала хто мог уявіць, што ў беларусаў, няхай нават на кароткі час, з'явіцца свой урад і свая дзяржава.

*charter97.org/be/news/2013/3/25/67025/*

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны
«Мяжа»